ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 16 (1614) ГОД XXXI БЕЛАСТОК 19 КРАСАВІКА 1987 г. ЦАНА 12 зл.



Самыя вопытныя прадстаўнікі хору Душпастырства праваслаўнай моладзі — актэт, які выступіў у конкурсе „Беларуская песня-87". Злева: Міраслаў Аляксейчук, Багдан Пура, Барбара Гаўрылюк (сястра Алі Дубец), Вольга Трэцяк, Анна Аляксейчук, Міраслава Кішкель, Аляксандр Філімашюк, Вяслаў Матрэнчык.

Хор Душпастырства праваслаўнай моладзі пачаў працаваць пры саборы св. Мікалая ў Беластоку з мая 1982 года. Ініцыятыва пакліканне да жыцця такога хору належыць епіскапу Савве, а мастацкае кіраўніцтва над хорам прыняў Васіль Дубец. Ініцыятыва была творчая і плённая. У хуткім часе ў хор пайшла беларуская праваслаўная моладзь з горада Беластока, якая працуе і вучыцца ў розных школах — сярэдніх і вышэйшых. У хоры яна знайшла магчымасць выявіць свае здольнасці і галасы.

Хор налічвае 50 асоб маладых людзей. Выконвае на чатыры галасы песні ў большасці царкоўныя, бо ў кожную нядзелю спявае ў саборы на ранішняй літургіі. Гэта адна дзялянка яго працы, але не адзіная.

Хор хутка дасягнуў высокага ўзроўню і ўжо з 1984 года пачаў выступаць з публічнымі канцэртамі з пашыраным рэпертуарам, узбагачаючы яго песнямі свецкага характару — рускімі, украінскімі, беларускімі.

Вядомыя калядныя і велікодныя канцэрты хору на Беласточчыне, калі ён спявае песні, звязаныя з гэтымі святамі. Дае і іншыя канцэрты, якія складаюцца ў палове з песень царкоўных і ў палове — свецкіх. З такімі канцэртамі выступаў ужо ў большых гарадах Беласточчыны




— Бельску, Гайнаўцы, Сямятычах. Прымае ён удзел у Днях царкоўнай музыкі, якія штогод праходзяць у Гайнаўцы. Выступаў хор у Чэнстахове і Пятркове-Трыбунальскім у тамтэйшых евангеліцкіх царквах. Быў канцэрты ў ГДР, Фінляндыі і Швецыі. Гэты апошні па запрашэнню сербскай праваслаўнай царквы ў Швецыі. Беластоцкі хор спяваў там у г. Мальме на ўрачыстасці пасвячэння царквы.

Таямніца поспехаў беластоцкага хору Душпастырства праваслаўнай моладзі ў яго адкрытасці. Па-першае, харысты паходзяць з розных сацыяльных і прафесіянальных асяроддзяў. Па-другое, кожная вартасная прыгожая песня знойдзе ў хоры сваё места і сваіх выканаўцаў. Што і гаварыць, вельмі важна, што хор спявае і будзе спяваць рэлігійныя і нерэлігійныя песні беларускія, украінскія, рускія на гэтых мовах. Гэта вельмі важная справа, яна садзейнічае ўмацоўванню праваслаўя, але таксама служыць і паглыбленню нашай нацыянальнай свядомасці — два аспекты, якія на Беласточчыне немагчыма раздзяліць.

Беларуская песня знайшла ў хоры сваё найбольш высокае ўвасабленне ў актэце, які ў бягучым годзе выступіў у конкурсе „Беларуская песня-87". Групу арганізавала і падрыхтавала Аліна Дубец — сама дасканалы выканаўца беларускіх і савецкіх песень і здольны музычны інструктар.

Актэт хору Душпастырства

(Працяг на стар. 5)

## У прэзідыуме ГП БГКТ

Галоўнай тэмай пасяджэння Прэзідыума Галоўнага праўлення БГКТ, якое адбылося 20 сакавіка г.г., была ацэнка конкурсу „Беларуская песня-87".

Гэты конкурс мае ўжо васемнаццацігадовую традыцыю і карыстаецца самай вялікай папулярнасцю сярод мерапрыемстваў, якія арганізуе Таварыства. На яго цэнтральным аглядзе ў Беластоку 28 лютага г.г. выступіла звыш 200 спевакоў са 106 песнямі. Самыя найлепшыя салісты і калектывы наступнага дня далі два канцэрты. Конкурс у гэтым годзе праходзіў на высокім мастацкім узроўні і стаўся ён вялікім беларускім святам — падсумаваннем гадавой працы нашых самадзейнікаў. Прэзідыум ГП высока ацаніў ход конкурсу, яго мастацкі ўзровень і выказаў сардэчную падзяку ўсім самадзейнікам — удзельнікам раённых і цэнтральнага аглядаў. Словы сардэчнай падзякі за грамадскае заангажаванне пры падрыхтоўцы і правядзенні гэтай імпрэзы Прэзідыум ГП накіраваў у адрас вядомых дзеячоў Таварыства Сяргея Лукашука, які рэжысіраваў канцэрт лаўрэатаў, і Валянціны Ласкевіч, якая вяла канцэрты.

Другая тэма пасяджэння — гэта інфармацыя аб падрыхтоўцы да пабудовы Музея помнікаў беларускай культуры і Беларускага ліцэя ў Гайнаўцы. Прэзідыум ГП адобрыў захады і намаганні грамадскіх камітэтаў пабудовы гэтых важных для беларускага асяроддзя аб'ектаў, а таксама звярнуўся з заклікам да членаў і сімпатыкаў БГКТ дапамагчы сваёй ахвярнасцю ў здзяйсненні гэтых высакародных планаў.

У далейшым Прэзідыум разглядзеў выкананне фінансавага плана ГП БГКТ за 1986 год і заслухаў інфармацыю аб ліку гурткоў і членаў БГКТ у 1985-1986 гадах.

В. Луба

## ПЕСНЯ

Цішыня, цішыня палявая,
Абдымі ты мяне, атулі.
Хай жа ветрык мяне
абвявае
Хмельным водарам
роднай зямлі.
Хай над полем
узнімецца песня,
Што вясёлы жаўрук запяе...
Як прасторна грудзям
і як цесна
Ад даверлівай ласкі яе.

Ірына Навуменка



## 42 ГАДАВІНА

21 красавіка 1945 года ў Крамлі ўрачыста быў падпісаны Дагавор аб дружбе, узаемнай дапамозе і паваенным супрацоўніцтве паміж Польшчай і Савецкім Саюзам. Ад імя Тымчасовага ўрада Польшчы падпісаў Дагавор прэм'ер Эдвард Асубка-Мараўскі, ад імя ўрада СССР — старшыня Савета народных камісараў Іосіф Сталін.

Дагавор быў гістарычным паваротам у адносінах паміж нашымі народамі і дзяржавамі. Ініцыятары яго, асабліва Польская рабочая партыя, разумелі велізарнае значэнне Дагавору для Польшчы, яе бяспечнасці, паспяховага гаспадарчага развіцця.

„Вечны саюз паміж Польшчай і Савецкім Саюзам, — сцвярджала пастанова ЦК ППР, прадстаўленая VI сесіі Краёвай рады нарадовай 31.12.1944 г. Уладзіславам Гамулкам, — выкаваны сёння ў супольнай барацьбе польскага жаўнера і воіна Чырвонай Арміі і сцэментаваны пралітай разам крывёю ў бітвах супраць супольнага ворага, гітлераўскай Германіі. Ён неабходны Польшчы не толькі сёння, не толькі дзеля таго, каб пры дапамозе Чырвонай Арміі вызваліць нашыя паўночныя і заходнія землі. Гэты саюз — не адно фактар вызвалення нашага народу, але адначасова гарантыя нашай незалежнасці, нашай моцы, нашага месца ў Еўропе, гарантыя нашых будучых заходніх граніц і гаспадарчага развіцця“.

Дагавор стаў важным звяном у працэсе пераўтварэнняў палітычных суадносін у Цэнтральнай Еўропе.

Увесь час існавання Народнай Польшчы бесперапынна адчуваецца дух дагавору. Гарантаваў ён усебаковую дапамогу ў найцяжэйшыя хвіліны для нашай краіны. У 80-я гады, падчас заходніх рэстрыкцый, СССР дапамог Польшчы залагодзіць эканамічны крызіс. Нашыя савецкія сябры згадзіліся на непрадбачанае планам павелічэнне паставак самых патрэбных тавараў і сыравіны, прызналі нашай краіне найбольшую ў гісторыі ўзаемных адносін крэдытную дапамогу. Апрача крэдыту ў рублях, СССР прызнаў Польшчы адзін мільярд долараў у вольных дэвізах і беззваротную дапамогу каля паўмільярда долараў. Дадатковыя пастаўкі савецкай бавоўны, каўчуку і іншых матэрыялаў забяспечылі прадукцыю ў многіх прадпрыемствах, у тым ліку і ў беластоцкім баваўняным камбінаце „Фасты“.

**(мх)**

## НА МЯЖЫ

На запрашэнне дэкана факультэта русістыкі і прыкладной лінгвістыкі Варшаўскага універсітэта праф. Альберта Барташэвіча прабывалі ў Польшчы ад 23 лютага да 4 сакавіка беларускія вучоныя: загадчык Кафедры беларускай мовы Беларускага дзяржаўнага універсітэта праф. Леў Шакун і загадчык Кафедры беларускай літаратуры гэтага ж універсітэта праф. Алег Лойка.

Нашы госці рэалізавалі шырокую праграму ў Варшаве, Вроцлаве і Кракаве. Зрэшты, аб гэтым яны самі расказалі ў інтэрв'ю, дадзеным для „Нівы“.

Мне сёння хочацца затрымацца выключна на іх знаходжанні на Беласточчыне. Варта адзначыць, што ўжо пяць гадоў таму назад, з нагоды стагоддзя з дня нараджэння Купалы і Коласа, гэтыя вучоныя прыехалі, між іншым, у Орлю. Мушу прызнацца, што нягледзячы на абмежаванні, уведзеныя ваенным палажэннем, жыхары Орлі падрыхтавалі тады такі прыём савецкім гасцям, якога не можа забыць ніколі чалавек з уражлівым сэрцам. Я многа разоў бачыў на працягу прамінуўшых пяці гадоў і Шакуна і Лойку і не было ніводнага выпадку, каб яны не выказалі слоў падзякі ў адрас выключнай гасціннасці арлянцаў.

На гэты раз падарожжа прафесараў Шакуна і Лойкі па Беласточчыне было вельмі кароткім, але моцна змястоўным і таксама, як і пяць гадоў таму назад, сардэчным. Нашы госці пабывалі ў Гайнаўцы, дзе прысутнічалі на цудоўным стыхійным канцэрце, дадзеным вучнямі Беларускага агульнаадукацыйнага ліцэя. Дарэчы, канцэрт быў папярэджаны вельмі змястоўнай і канкрэтнай інфармацыяй дырэктара ліцэя А. Іванюка аб гісторыі і сённяшнім дні школы. Кранапі рэмінісцэнцыі Іва-




нюка аб першай сустрэчы яго з савецкімі вучонымі, якія мелі месца некалькі дзесятак гадоў таму назад. Госці былі шчыра ўзрушаны прыёмам у Беларускім ліцэі і выказалі гэта ў сваіх выступленнях. Пасля сустрэчы госці наведалі Белавежу: звярынец і музей, што таксама выклікала ў іх вельмі прыемныя ўражанні.

Пасля гэтага паехалі яны ў Бельск, дзе сустрэліся з моладдзю з Беларускага агульнаадукацыйнага ліцэя. Пасля выступленняў вучні паставілі гасцям цэлы рад пытанняў, звязаных галоўным чынам з этнічна-нацыянальнымі праблемамі.

Вечарам наступіў, калі так можна сказаць, кульмінацыйны пункт прабывання гасцей з БССР на Беласточчыне. Накіраваліся яны ў вёску Крывая, дзе сустрэлі іх прадстаўнікі гмінных палітычных і адміністрацыйных улад. Асаблівую арганізацыйную смыкалку, як зрэшты заўсёды, праявіў тут член Прэзідыума ГП БГКТ і інспектар асветы Анатоль Мартыновіч.

На пачатку Шакун і Лойка прысутнічалі на пленарным пасяджэнні, на якім з вельмі цікавым дакладам выступіў старшыня арлянскага гміннага праўлення БГКТ Янка Добаш. Выступалі і нашы госці і вельмі эмацыянальна гаварылі аб сваіх уражаннях з пабыўкі на Беласточчыне. Пасяджэнне закончылася канцэртам арлянскага мастацкага калектыву. Пасля прадстаўнік мясцовай спулдзельні прадукцыйнай, сябра Стральчук уручыў гасцям цікавыя падарункі. У канцы пачалося вялікае гасцяванне, якое трывала прыблізна ад пятай гадзіны вечара да другой гадзіны ночы.

Я ўжо некалькі разоў падкрэсліваў у сваіх артыкулах прыкрую з'яву, якая заключаецца ў тым, што чым багацей жывуць людзі матэрыяльна, тым убажэюць духоўна. Тое, што паказалі жыхары Крывой, пярэчыць гэтаму тэзісу. Яны адкрылі насцеж свае сэрцы, праявілі выключную гасціннасць. Тое, што акрэсліваецца „хлебам-соллю“ ў даслоўным і пераносным сэнсе, выступіла ў такіх грандыёзных памерах, што не магло не выклікаць з боку гасцей і шчырага захаплення і шчырай удзячнасці. Так, у вёсцы Крывая не толькі жыве, але і квітнее буйным цветам традыцыйная беларуская гасціннасць. А колькі ж пры гэтым было жартаў, колькі прыгожых тостаў, колькі песень і танцаў!

Былі ў нашай краіне часы, калі такія буйныя мерапрыемствы арганізаваліся за дзяржаўныя грошы. У Крывой жа ўсё зрабілі самі жыхары, асабліва цудоўныя мясцовыя жанчыны, якія паказалі вялікі клас і ў эстэтыцы выгляду ежы і ў яе смаку.

Што ж я магу сказаць ад сябе? Хацеў бы з настальгіяй перафразаваць народную казачную формулу: „І я там быў, мёд-віно піў і ўсё ў рот папала“.

Пакінулі мы Крывую толькі фізічна, духоўна надоўга астанемся з цудоўнымі яе жыхарамі. Назаўтра, 28 лютага, паехалі мы ў Беласток і там трапілі на агляд „Беларускай песні-87“. На жаль, госці вымушаны былі ехаць у Варшаву і не дагледзелі выступленняў да канца. Вельмі шкадавалі, што так сталася, і выказалі пажаданне прыехаць на Беласточчыну заўсёды, калі толькі лёс іх кіне ў Народную Польшчу.

**А. Барскі**

## Весткі з Беларусі

### БЕЗ УЧАРАШНЯГА НЯМА СЁННЯШНЯГА

**У Мінску існуе клуб „Спадчына“, які паўстаў пад канец 1984 года на падставе пастановы Выканаўчага камітэта раёна Партызанскі беларускай сталіцы. Клуб атрымаў асобнае памяшканне ў доме на вуліцы Мендзялеева, 3.** Яго дзейнасцю кіруе рада, абраная сярод жыхароў гэтага гарадскога мікрараёна, у ёй і настаўнікі, і партыйныя кіраўнікі. Раду ўзначаліў Анатоль Белы, выкладчык філасофіі Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя Леніна як ініцыятар заснавання клуба „Спадчына“. Ужо 20 лютага 1985 г. клуб гэты ўрачыста прыняў першых наведвальнікаў. „Спадчына“ займаецца прапагандай беларускай савецкай літаратуры і мастацтва, культуры і навукі, эстэтычнай культуры, патрыятычным выхаваннем, а таксама садзейнічае папулярызацыі ведаў і культуры сярод жыхароў мікрараёна і, нават, па-за яго межамі.

Ініцыятыва гэтая выявілася настолькі своечасовай і патрэбнай, што клуб „Спадчына“ хутка пераўтварыўся ў сапраўдны музей ды захавальнік твораў беларускіх мастакоў. Тут ужо больш за тысячу графічных работ, каля двухсот твораў медальернага мастацтва, стварылася такім чынам унікальную ў БССР калекцыю. Ёсць тут болей за семдзесят скульптураў і больш за сто жывапісных і акварэльных работ. Функцыяніруе пастаянная выстаўка „Сыны зямлі беларускай“, на якой паказваюцца каля трохсот твораў.

Колькі разоў у месяц (2-3) адбываюцца сходы, у час якіх выступаюць запрошаныя пісьменнікі Беларусі, дзеячы яе культуры і навукі. Ужо былі гасцямі „Спадчыны“ Янка Брыль, Іван Шамякін, Ніл Гілевіч, Адам Мальдзіс, Генадзь Каханоўскі, Генадзь Кісялёў, дактары навук Анатоль Грыцкевіч, Георгій Штыхаў, Іосіф Юхо, Эрнст Ляўкоў; выступаў у „Спадчыне“ і Алесь Барскі.

Члены клуба збіраюцца не толькі дзеля сустрэч з выдатнымі людзьмі, але і для звычайнага баўлення часу паміж сваімі або дзеля абмяркоўкі, напрыклад, свята Купалы. Небанальная форма дзейнасці выклікала зацікаўленне „Спадчынай“ ва ўсёй рэспубліцы і, наогул, у Саюзе ССР, як і за мяжою, прыкладна кажучы, у Чэхаславаччыне. Пісалі пра гэты клуб газеты і часопісы, бачачы ў ім прыклад іншым.

**(Працяг на стар. 5)**



**На адкрыцці мастацкай выстаўкі да 500годдзя Францішка Скарыны ў Беларускім Дзяржаўным універсітэце імя У. І. Леніна (з калекцыі старшыні „Спадчыны“, Анатоля Белага).Злева направа: В. Шматаў, мастацтвазнавец, сакратар партыйнага бюро; пісьменнікі — А. Мальдзіс, А. Петрашкевіч, старшыня „Спадчыны“ А. Белы, Я. Семяжон, А. Лойка.**

# ЗОРКА
## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ


# ПАМІЖ ГРОДНАМ І БЕЛЬСКАМ



Беларускі танец (з гармонікамі) у выкананні калектыву з Палаца піянераў з Гродна.

Пачатковую школу нумар 2 наведаў піянерскі калектыў песні і танца „Мара“ з Гродна. Выступіў ён з багатым каляровым канцэртам у вялікай фізкультурнай зале для школьнай дзетвары і настаўнікаў, а ўвечары ў доме культуры для горада Бельска. Вячэрні канцэрт ператварыўся ў маніфестацыю дружбы, бо апрача гродзенскага калектыву піянераў выступілі, „Вясёлыя ноткі“, „Дзявочыя ноткі“, „Крынічка“, „Васілёчкі“, „Падляшскія зязюлькі“ — усе з Бельска.

У багатай праграме гродзенцаў асабліва падабаліся танцы, якія распрацоўвае для калектыву „Мара“ Анатоль Панасюк (некалі сам танцаваў у гэтым жа калектыве), цяпер танцор Беларускага народнага ансамбля „Раніца“ ў Гродне.

Супрацоўніцтва і абмен груп паміж Бельскім гуфцам ЗГП і Гродзенскім палацам піянераў працягваецца два гады. Плённае гэта супрацоўніцтва! Бельскія гарцэры ездзяць у Гродна, гродзенскія піянеры наведваюць Бельск.

У бельскай пачатковай школе нумар 2 працуе цікавы гарцэрскі калектыў „Вясёлыя ноткі“. Яго арганізавала і вядзе Валянціна Мароз — педагог школьнай святліцы і дружынова гарцэрскай дружыны.

„Вясёлыя ноткі“ выхаваны ў ідэі інтэрнацыянальнага братэрства маладых, яны сваёй дзейнасцю годна нясуць сцяг польска-савецкай дружбы. Калектыў — удзельнік і пераможца розных гарцэрскіх конкурсаў песні. У мінулым годзе на фестывалі гарцэрскай песні ў Кельцах заваяваў „Сярэбраную ёлку“, а ў гэтым годзе на III агульнапольскім конкурсе песні „Колеры дружбы“ ў Белай-Падляшскай — кубак куратара школьнай акругі.

У „Вясёлых нотках“ добрае супрацоўніцтва з Бельскім домам культуры. Музычныя інструктары БДК працуюць з калектывам: Лявон Кудзін распрацоўвае музычную частку, а Багдан Шульц акампаніруе.

Вельмі хочацца, каб калектыў „Вясёлыя ноткі“ ўвёў у сваю праграму і беларускія песні!

(вв)

Фота Е. Вежхоўскага



„Вясёлыя ноткі“ з багатай праграмай гарцэрскіх і р[illegible]кіх савецкіх песень.



Якуб Колас

### ВЯЛІКДЗЕНЬ

(Урывак з паэмы „Новая зямля“)

Над ціхай талаю зямлёю
Навісла ночка той парою.
Было спакойна і лагодна,
Як-бы сама прырода тая
Паважнасць свята адчувае,
З людзьмі жыве супольна, згодна,
Маўчаць хваіны, ані зыку,
Не шэпне гэты бор-музыка,
Стаіць маўчком і разважае,
Відаць, Вялікадня чакае.
„Цяпер і страхі пазнікалі!“
На вуха Кастусю шапталі
Якіясь думкі весялушкі:
„Звяры Вялікдзень чуюць, птушкі,
І хвоі гэтыя, і елі,
Ліхія людзі падабрэлі,
Бо святам Божым ўсюды вее.
З нажом разбойнік не пасмее
Залегчы ў лесе срэдзь дарогі,
Бо і заможны і убогі
Святы Вялікаднік сватхуюць
І радасць ў сэрцы сваім чуюць“.



Авяр'ян Дзяржынскі

### КУКУЛІНА

— Ку-ку,
Ку-ку, —
Кукуліна
Закувала
На яліне,
На яліне,
На суку. —
Ку-ку,
Ку-ку!
Я спыніўся
Ля яліны,
Папрасіў
У кукуліны:
— Пракувай мне
Сто разоў,
Жыць хачу я
Сто гадоў!



ЖАДАЮ ВАМ МНОГА КАЛЯРОВЫХ ВАЛАЧОБНАЎ
„ЗОРКА“

# У НАШАЙ ГРАМАДЦЫ

**Падручнік беларускай мовы для пятага класа**
**Аўтары: Лідзія Гайдук — Мікалай Гайдук**

## ЗАСНАВАЛЬНІК БЕЛАРУСАЗНАЎСТВА

Не мала было ў мінулым, асабліва ж многа ёсць цяпер вучоных, якія **займаюцца** даследаваннем нашай роднай беларускай мовы. Сярод іх найважнейшае месца належыць Яўхіму Фёдаравічу Карскаму (1861-1931 — выдатнаму вучонаму і выхавацелю моладзі.

Паходзіў Карскі з сям'і вясковага настаўніка з Гродзеншчыны. Яму вельмі хацелася вучыцца, але ў бацькоў не было сродкаў на адукацыю дзяцей. Дзякуючы сваёй працавітасці і настойлівасці, зарабляючы на жыццё прыватнымі ўрокамі з дзяцьмі з заможных сем'яў, ён выдатна закончыў сярэднюю, а потым вышэйшую школы. Доўгі час настаўнічаў у сярэдняй школе, затым больш за дваццаць год працаваў у Варшаўскім універсітэце. За высокія маральныя якасці, вялікія дасягненні ў навуковых даследаваннях і навучанні моладзі яго выбралі рэктарам Варшаўскага універсітэта. Потым ён працаваў на адказных пасадах у Акадэміі навук Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік.

Вывучэнню беларускай мовы, вуснай народнай творчасці і гісторыі літаратуры Карскі цалкам аддаўся яшчэ ў студэнцкія гады і гэтаму прысвяціў усё сваё жыццё. Ён наведваў вёскі і гарады, уважліва слухаў размовы людзей, старанліва запісваў кожнае пачутае слова, прыказку, народную казку, песню. Часта **наведваў** Беласточчыну, быў **у Саколцы**, Сухаволі, Гарадку, Заблудаве, Белавежы навакольных вёсках. Вывучаў старажытныя рукапісы і друкаваныя выданні.

**У выніку** паўстагоддзя сістэматычных даследаванняў Карскі **напісаў** сотні навуковых артыкулаў і прац. У найважнейшай сваёй рабоце „Беларусы" апісаў беларускую мову, вусную народную творчасць, літаратуру беларускага народа. Яе справядліва называюць энцыклапедыяй ведаў пра Беларусь і беларусаў.

Карскі выхаваў шэраг выдатных вучоных і дзеячоў беларускай культуры. Пад яго кіраўніцтвам Браніслаў Тарашкевіч напісаў першую „Беларускую граматыку для школ".

Багатая навуковая дзейнасць Яўхіма Фёдаравіча Карскага склала аснову беларусазнаўства.

**Мікалай Гайдук**

*1. Дзе нарадзіўся Яўхім Фёдаравіч Карскі?*

*2. Раскажыце пра яго вучобу, працу ў Варшаўскім універсітэце і Акадэміі навук СССР.*

*3. Што вывучаў Карскі? Як называецца найважнейшая яго праца? Чаму яе называюць энцыклапедыяй ведаў пра Беларусь і беларусаў?*

*4. Хто быў вучнем Карскага і што напісаў?*

## ВЯСНА ПРЫЙШЛА

Вясна ў гэтым годзе прыйшла нечакана. Было холадна, золка, раніцай нават падмарожвала. А тут як раптам дыхнуў цёплы паўднёвы вецер. Ён прагнаў шэрыя калматыя хмары, на чыстым блакітным небе заззяла яркае веснавое сонейка, і ўсё навокал ажыло, заварушылася.

Ад гарачых сонечных праменяў снег пачарнеў, заплакаў і гаманлівымі ручайкамі пабег у рэкі і азёры. З выраю з радаснымі крыкамі прыляцелі птушкі. Раніцай яны наладжвалі такія вясёлыя канцэрты, што слухай — не наслухаешся. На дрэвах набухлі пупышкі. Яшчэ дзень-два — яны палопаюцца, і з іх пакажуцца пяшчотныя зялёныя лісцікі. Каля платоў, з сонечнага боку, паказаліся першыя вострыя іголачкі-травінкі. У такі дзень цягне на двор, на прастор.

Вось з кватэр высыпалі дзеці, з лапатачкамі і саўкамі ў руках. Агледзеліся і пачалі раіцца, чым ім заняцца. Пасля зімы двор выглядае неприбраным, брудным, і гуляць на ім не цікава.

— Давайце, пачысцім пясочніцу, — раптам прапанаваў Юрка, самы большы з іх, верхавод і выдумшчык розных гульняў.

Пясочніца — любімае месца малышоў. Летась яны тут будавалі пясчаныя хаткі, рабілі пячоры, пяклі булкі. Не дзіва, што дзеці ў адзін голас закрычалі:

— Давайце! Давайце!

— Я буду брыгадзір, а вы — рабочыя. Добра? — сказаў Юрка і першы пабег да пясочніцы. Малыя заспяшаліся за ім.

Дзеці выбралі паперкі, кавалачкі цэглы, каменьчыкі, трэскі і ўсё гэта знеслі ў яму для смецця. Разраўнялі леташні пясок. Затым пачалі зносіць дробнае каменне, якое кучкай ляжала недалёка ад пясочніцы. Але насіць хутка надакучыла. Тады Лёня збегаў дадому і прынёс вялікую чырвоную аўтамашыну. Работа пайшла спарней, а галоўнае весялей. Бора, Мая, Юра нагружалі, а Лёня адвозіў. Малым таксама хацелася пракаціць на грузавіку, але Лёня сказаў, што яны не ўмеюць „руляваць".

Скончыўшы насіць і вазіць каменне, дзеці заўважылі, што дзве маладзенькія ліпкі, пасаджаныя мінулай восенню, не падвязаны. Мая прынесла з дому кавалак тонкай вяровачкі, і дзеці тут жа іх падвязалі.

На двары заставаліся яшчэ калдобіны ад колаў аўтамашыны, ды там-сям валяліся цаглі-ны і ладныя круглыя камяні. Малышы паспрабавалі лапатачкамі засыпаць раўчукі, але гэта работа ім хутка абрыдла. Адпачыўшы крыху, яны вырашылі знесці камяні, каб не заміналі. Але вось бяда. Здаецца, і невялікія на выгляд камяні, але падняць іх ніхто не можа. Нават Юрка. Пастаялі дзеці, паглядзелі і давай каціць камень гуртам.

Якраз у гэты момант з работы вяртаўся Юркаў бацька. Пады-шоў ён да дзяцей і пытаецца, куды яны коцяць камень. Малыя хорам адказалі. Юркаў бацька ўважліва паглядзеў на іх, пакруціў галавой і сказаў:

— Сілы ў вас малавата. Кашы трэба больш есці. Зараз я вам дапамагу.

Ён узяў самы вялікі камень і панёс.

Неўзабаве да яго далучыліся і іншыя бацькі і маткі. Мужчыны знеслі каменне, цэглу, разраўнавалі калдобіны і ямы. Жанчыны сабралі смецце, падмялі двор, пасыпалі яго жоўтым пясочкам. І калі ў шыбах вокан загарэліся чырвоныя промні вячэрняга сонца, двор стаў такі чысты і прыгожы, што яго нельга было пазнаць.

**Пятро Рунец**

## ВЕРШЫ-ЗАГАДКІ

**Авяр'ян Дзеружынскі**

**БРАТЫ-ПАМОЧНІКІ**

**На руцэ маёй**
**Адной**
**Пяць братоў**
**Жывуць сям'ёй.**

**Працаваць**
**Мне памагаюць,**
**Лыжку ў час яды**
**Трымаюць.**

**Колькі іх —**
**Братоў такіх**
**Ёсць на дзвюх**
**Руках маіх?**

**КОЛЬКІ?**

**Ляцелі дзве галкі,**
**Селі на дзве палкі,**
**Трошкі збоку —**
**Недалёка**
**Прымасцілася сарока.**
**Прыляцела,**
**Як знарок,**
**Яшчэ сорак сарок...**
**Колькі разам**
**Стала і сарок і галак?**

## ВЯСЁЛЫ КУТОЧАК





У паходзе:
— Хіба каша нясмачная?
— Ды не! Яна такая смачная, што нават шкада яе есці.

## ПАЗНАЁМІМСЯ

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, 2 пер. Р. Люксембург, 4, кв. 2. Аксана Пераvалава, 5 клас.

* * *

БССР, 220092, г. Мінск-92, вул. Д.-Марцінкевіча, 6, кв. 116. Люда Галабурда, 6 клас.

* * *

БССР, 220024, г. Мінск-24, вул. Асаналіева, 26, кв. 165. Надзя Герасіменка, 7 клас.

* * *

БССР, 220024, г. Мінск-24, вул. Асаналіева, 26, кв. 51. Лена Гайдаш, 7 клас.

* * *

БССР, 220001, г. Мінск-1, пер Праязны, 3, кв. 4. Наташа Хрытанкова, 5 клас.

* * *

БССР, 220001, г. Мінск-1, вул. Рабкораўская, 2, кв. 26. Юля Лапшына, 7 клас.

* * *

СССР, 301254, Тульская обл., Одоевский район, с. Рылёво. Хариной Светлане, 6 клас.

## А-Д-Г-А-Д-А-Н-К-А



**Чым адрозніваюцца два гэтыя малюнкі. Знайдзіце восем розніц.**


Адрас рэдакцыі: „Зорка" 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1

З суседскага агародчыка

## ІНДЫК-ЗАГАДЧЫК

У птушніку, дзе стаў загадчыкам індык,
Усе паказчыкі, лічы, спаўзлі на пшык.
А ён замест таго, каб справу паляпшаць,
Злаўчыўся галаслоўна рэкорды абяцаць.
Бадзёра і штодня інфармаваў раён,
Што хутка яйкамі ўсіх забяспечыць ён.
Наладжваў пасяджэнні днём і ноччу,
Курэй і Пеўняў як найстражэй пясочыў:
— Маё заданне вам такое чэсць па чэсці:
За суткі па тры яйкі — і не меней — несці!..
Не ўцерпеў Певень, на жэрдку ўзляцеў
І так загад аспрэчыць захацеў:
— Мы можам даць прадукцыю
й звышпланава.
Пра утрыманне каб
падумалі старанна!..
Але дзе корм, патрэбныя дзе ўмовы?..
Індык прыкрыкнуў тут:
— Твой довад мне не новы.
Кармы яму давай!?
Вы ж куры — не каровы,
Карміцеся на вуліцы, ідзіце на палі,
То справа вашая, а яйкі каб былі...

У рэшце рэшт прыехала камісія
І скончылася індыкова місія.

**Мікалай Місюк**

## ШЧАСЦЕ

Ён аж аслупянеў, калі ўбачыў яе. Тая, якую шукаў усё жыццё, была амаль побач. Якраз такой ён уяўляў яе, якраз пра такую марыў. Зграбненькая, прыгожая, далікатная... Ён уявіў, як яны будуць гуляць па гарадскіх вуліцах, як усе будуць зайздросціць яму, і сэрца аж захлынулася ад радасці.

Ён, выплюнуўшы цыгарэту і затаптаўшы яе, рашуча накіраваўся да хударлявага дзядка, які стаяў ля ўвахода на кірмаш і чакаў, пакуль знойдзецца пакупнік на ягоную лайку.

**Уладзімір Граўцоў**






## ДОБРАЕ СЭРЦА

Малы Міколка глядзіць, як б'юцца два пеўні і прымаўляе:

— Ой, каб той малы задзёўб таго вялікага!

— Малайчына, Міколка, — пахваліў настаўнік, што праходзіў побач. — Табе, пэўна, шкада таго маленькага!

— Не, не шкада! Але з таго вялікага пеўня было б мяса больш.

## СІЛА КРЫТЫКІ

— Як вы дабіліся стапрацэнтнага наведвання сходаў?

— Крытыкай. У нас крытыкуюць толькі адсутных.

## ВЫТЛУМАЧЫЎ

— І не сорамна: жанаты, а сам прышываеш гузікі.

— Ды гэта ж не мой пінжак, а жончын...

## НАТАТКІ ДОКТАРА ЗНАХАРУКА

„Хвораму дваілася ў вачах: левым вокам ён бачыў адны прадметы, а правым — другія".

## СЛУШНАЯ ПАРАДА

Зайшоў нейк Ігнат да Сцяпана. Сям'я якраз сядала за стол.

— Можа і ты з намі паабедаеш, сусед?

— Ды, мабыць. Бо ж адмаўляцца, кажуць людзі, непрыгожа.

— А ты не заўсёды слухай усё тое, што людзі кажуць! — параіў гаспадар.

## ПАГОДА ЎПЛЫВАЕ

— Праўду людзі кажуць, што пагода на здароўе ўплывае. Сёння раніцай так спаць хацелася — мабыць, будзе дождж! — кажа сын да маці.

— Як на твае сны, сынок, дык ужо б даўно ўсясветны патоп настаў! — засмяялася маці.



**Быў чалавекам толькі ў свабодны ад асноўнай работы час.**

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Аднаго сенатара спыталі, якія якасці палітыка ён лічыць самымі неабходнымі. Сенатар адказаў:

— Здольнасць прадказаць, што здарыцца заўтра, праз месяц, праз год, а потым вытлумачыць, чаму гэтага не здарылася.

*

Нільсен выявіў, што не аплаціў два рахункі: за лячэнне і за святло. На жаль, грошай хапала толькі на адзін з іх.

— Які ж рахунак аплаціш? — пытае ён жонку.

— Вядома, за электрычнасць. Доктар жа не адключыць кровазварот.

*

У варажбіткі:

— У наступным годзе вы ажэніцеся з прыгожай брунеткай з пасагам у мільён франкаў.

— Дзякую, мадам. Вось ваш ганарар. Ды я яго падвою, калі вы скажаце мне, куды дзець фарбаваную брыдкую бландзінку, у якой ні граша за душой.




З „Весніка Задрыпоні"

## РЭДКАЕ ПАЧУЦЦЁ

Рэдкае „пачуццё гола" ў абаронцы каманды „Асфальт" Каткевіча. Ён заўсёды першым паспявае да мяча, дастае яго з сеткі варот сваёй каманды і моцным ударам накіроўвае да цэнтра поля.

## ПАДЗЕІ

Нядаўна пры выхадзе з мясакамбіната быў затрыманы разбіральшчык Куніцкі. Ён трымаў язык за зубамі.



## ПАРА АДДАВАЦЬ ДОЎГ

Сядзіць Іван у карчме, сам не п'е, а толькі лыпае на п'ючых. Карчмар яго пытае:

— А чаму гэта ты сёння не п'еш?

Іван адказвае:

— Не буду піць аж да нядзелі, грошай няма.

— А ў нядзелю дзе ж грошы возьмеш? — цікавіцца карчмар.

— Ды цяля прадам.

У карчмара аж вочы заблішчалі, калі пачуў гэта:

— Дык я табе ў доўг на цяля наліваць буду.

Іван згадзіўся. П'е дзень, другі — аж да нядзелі. А ў нядзелю не з'яўляецца ў карчме.

Карчмар да яго:

— Іван, аддай цяля. Ты ж на яго ўжо напіў у мяне.

Тут Іван да жонкі:

— Яўдоха! Збірайся ды вядзі карову да быка, а то карчмар ужо па цяля прыйшоў.



## Курёзы

## КОНКУРСНЫ КАЗУС

Вершы выдатнага французскага паэта мінулага стагоддзя Шарля Бадлера занялі на паэтычным конкурсе маладых аўтараў у Тулузе толькі... трэцяе месца.

Арганізатарам гэтай сенсацыі стала 25-гадовая Беатрыс Арыяс. Яна прачытала твор прызнанага мэтра перад прадстаўнічым журы, выдаўшы за ўласныя вершы з вядомага зборніка „Кветкі зла". Прычыну свайго ўчынку дзяўчына растлумачыла проста: яна марыць стаць актрысай і шукае спосаб прыцягнуць на сябе ўвагу. У нейкай меры яе план, магчыма, удаўся. Задаволены і маладыя паэты, якія лічаць, што выйгралі ў куміра мінулага стагоддзя ў сумленным саперніцтве. У няёмкім становішчы апынуліся, бадай, толькі члены журы — сорак спецыялістаў, якія не пазналі паэзіі славутага Бадлера...

## МУДРАСЦЬ

Малады чалавек хваліўся перад старажытнагрэчаскім філосафам Арысцідам, што многа чытаў.

— Не тыя самыя тоўстыя і здаровыя, хто многа есць, а тыя, хто добра пераварвае прыняты харч, — заўважыў на гэта філосаф.



**Народжаны поўзаць лятаць не можа, але часам запаўзае высока.**